

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны, дзвінскі ўзгорак, каб глядзець у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №14 (30)
ВЕРАСЕНЬ 2015 ГОДА

КАЛОНКА РЭДАКТАРА

## СЁЛЕТНІЯ ВЫБАРЫ ЯК МЛЯВАПРАЯЎНАЯ ХВАРОБА

**Выбары ў Беларусі – гэта як вырак, які загадзя вядомы. “ Мне падабаецца Караткевіч”, - кажа суседка, - але ж усё адно абяруць яго”.**

Сёлетняя прэзыдэнцкая кампанія падобная на млявапраяўную хваробу: нібыта лёгкае недамаганьне, але ж нічога асабліва не баліць. Насельніцтва, якое ў 1994 годзе, як распавёў былы настаўнік фізкультуры з Віцебску на сустрэчы з Т. Караткевіч, стварала баявыя атрады, каб бараніць “усенародна абранага”, зараз знаходзіцца ў стане млявай абыякавасьціі часовай разгубленасьці. Апошняе, як мяркую з назіраньняў, выклікана неўратычнай праблемай выбару, таму пасьля 11 кастрычніка мусіць хутка прайсьці. Усё ўстаканіцца і будзе, як тады.

Паўсюль выбары ўспрымаюцца, як рухавік пэўнага прагрэсу, пераменаў, удасканалення жыцця, абуджэння закладзенага ў кожным народзе патэнцыялу. Паўсюль, толькі не ў нас.

Зьмяняць жыццё кардынальна, альбо выбіраць новую палітычную персону ўласным розумам, самастойна тутэйшы электарат нядатны. Пакуль жывы стары важак адважыцца на замену насельніцтва, абцяжаранае посттраўматычным таталітарным сіндромам, ніколі не адважыцца.

Учора адкрыў паштовую скрыню і знайшоўтам буклет на чатыры старонкі з выявамі чатырох кандыдатаў на пасаду прэзідэнта РБ і невялікім тэкстам пад кожнай з іх. Гэткім чынам мне і вам( гэкія ж буклеты трапілі і ў вашы скрыні) нагадалі – ідуць выбары. Прыдзіцье - і прагаласуйце. Буклеты мяне зацікавілі і зместам, і выявамі, чым і хачу падзяліцца з вамі.

І так выявы: на першай і чацвёртай старонцы стомленыя жыццём дзядзькі, нядатныя нават усьміхнуцца, – ну, куды ім краінай кіраваць? Засталося двое( з усмешкамі на тварах): прыгожая маладая кабета і нязменны зух-прэзідэнт. Каго абраць? Маладосць з яе прагай да пераменаў ці сталасць з яе стабільнасцю? Што нясуць перамены, кожнаму беларусу “ давыдзькі”кожны дзень распавядаюць з экранаў тэлевізара. Паўтарацца не буду. Таму, як мяркуецца, выбару ў беларусаў не застаецца.

Зараз колькі словаў пра тэксты. У С. Гайдукевіча і А. Лукашэнкі яны падобныя – дзяржаўныя і палітычныя дзеячы. Але!?. Лукашэнка - ад зямлі, з вёскі, Гайдукевіч - з гораду. Наступны сказ усяго з аднаго слова, якога няма ў Гайдукевіча – Беларус (прычым з вялікай літары, ва Улаховіча з маленькай), то бок: 1-0 на карысць усенародна абранага. Лукашэнка ўжо прэзідэнт (прычым тройчы пераабраны), а тут нейкі лідэр нейкай цмянай партыі ЛДПБ: ужо 2-0. І апошні пракол Гайдккевіча – “ увлекается музыкой( окончіл музыкальную школу), літературой (пішет стіхі), рыбалкой”. Можа недзе на Захадзе гэта і спрацавала, а ў нас: 3-0 – усухую

Пра М. Улаховіча ўсяго некалькі словаў, бо не канкурэнт ён, не канкурэнт. Тэкст, як аўтабіяграфія, сціснутая да таго ж у адным абзацы. Два дадатковых сказа – як рамка некралогу. Сумнае відовішча.

Зараз пра Таццяну Караткевіч – тэкст выключна разумны, сцiслы, інфарматыўны. Што да мяне, то я б прагаласаваў за яе, але размова не пра мяне. Размова пра электарат. З лікам 1-0 Лукашэнка перамагае адразу пасля першых двух словаў – “ общественный деятель”. Так - разумная, прыгожая, маладая энергічная, абазнаная, ведае, што рабіць, але – грамадзкі дзеяч. Для Рыгоравіча гэта сфера дзейнасці - не ягоны ўзровень. Ён – палітык, гісторык, эканаміст, ён – бацька, ён – кіраўнік ня дробнага маштабу. Ён работаў у партыйных і камсамольскіх органах, а “ не вступал, не состоял” у нейкіх там партыях. Розніцу адчуваеце?

І некалькі заўваг пра нешта станоўчае, чаго стваральнікі гэтага буклета не ўлічылі. Караткевіч усё ж такі перамагае, перамагае сваім праўдзівым вобразам, сваёй перакананасцю, шчырасцю, маладосцю, нястомленасцю, веданнем таго, што зараз трэба рабіць у краіне. У рэшце рэшт усё будзе залежыць ад актыўнасці электарата , якую яму раней ці пазней усё адно прыйдзецца праявіць. Але на гэтых выбарах ён хутчэй за ўсё яшчэ раз прайграе.

**Рэдактар**

ВЫБАРЫ-2015

## ТАТЬЯНА КОРОТКЕВИЧ ВСТРЕТИЛАСЬ С ИЗБИРАТЕЛЯМИ

**21 сентября Татьяна Короткевич в очередной раз прибыла в Витебск. Основная встреча с избирателями состоялась в актовом зале СШ №31.**

Приехала госпожа Короткевич со своими доверенными лицами: Сергеем Чалым, экономистом, ведущим программы «Экономика на пальцах», Игорем Ляльковым, представителем Татьяны Николаевны в ЦИК, и военным аналитиком Леонидом Спаткаем.

Первым взял слово Игорь Ляльков. Он рассказал о том, из какой табакерки выскочила внезапно эта неизвестная до недавнего времени дама. Некоторое время Татьяна Короткевич работала в рамках кампании «Говори правду», а затем возглавила инициативу «Народный референдум», вокруг которой сконцентрировалась целая команда единомышленников.

Выступление Сергея Чалого был более продолжительным и более информативным. Выяснилось, что те высокие темпы экономического роста, что были у нас до сих пор, объясняются исключительно внешними спецэффектами, которые стали возможными за счет искусственного накачивания доходов.

Высказал он и такую мысль, что если три кризиса подряд происходят с завидной периодичностью, то наверное они являются органической частью той модели экономики, которую мы имеем, а не результатом каких-то внешних факторов, как убеждают нас власти. За всем этим скрывается структурная проблема, исключительно наша проблема.

На этот раз пересидеть сегодняшний кризис, к чему призывает власть, не удастся, так как нефти по сто долларов за баррель в ближайшие лет десять уже не будет.

Сейчас уже всем понятно, что происходит. Понятно что, если не делать ничего, нас ждет путь дальнейшего абсолютно безнадежного погружения в трясину.

В своем основном выступлении Татьяна Короткевич рассказала о пути своего общественного и политического взросления, а затем сосредоточилась на насущных проблемах жизни. Она отметила, что люди, к сожалению, не понимают, как на качество их жизни влияет политика. И поэтому они перестали надеяться на власть и начали уповать только на себя. Продолжая основной посыл предыдущего выступающего, она заявила, что в отличие от нынешней власти она имеет политическую волю для реализации экономических реформ, которые давно назрели в стране.

Основной принцип международной политики – это принцип сбалансированных международных отношений со своими соседями. То есть мы хотим развивать пропорционально-полезные отношения и с Россией, и с Украиной, и с Евросоюзом, быть более открытыми в международных отношениях. Нейтральный военный статус Беларуси, за который мы выступаем, должно создать привлекательный имидж для привлечения инвестиций и поможет находить новых партнеров во всех сферах международных взаимоотношений.

Все, что мы собираемся делать в будущем, мы собираемся делать вместе с командой единомышленников, с учетом общественного мнения и в строгом соответствии с законом.

После выступления кандидата в президенты Короткевич и ее доверенных лиц задать свои вопросы кандидату на пост президента и выразить свое видение ситуации в стране имели присутствующие на собрании граждане. Кандидат на пост президента заявила, что знает о фальсификациях на стадии досрочного голосования, но нельзя выиграть выборы, если ты в них не участвуешь. Поддержка людей – это единственная возможность нам с вами разговаривать друг с другом, находить единомышленников и идти вперед. И эту возможность она сегодня использует.

Некто Анатолий Бородулин посоветовал в результате победы перевести стрелки часов на час вперед, так как в результате отмены зимнего времени белорусы не досыпают целый час, может поэтому у нас многое и не получается. Кандидат поддержала высказанную инициативу, заявив, что белорусы должны жить в реальном времени.

Второй вопрос касался строительства белорусской АЭС, которое вызывает много вопросов. О том, что приходит много сообщений о нарушениях, имеющихся там, госпожа Татьяна знает. Строительство станции можно было бы и остановить, но необходимо общественное обсуждение и анализ специалистов. Надо провести ревизию и определиться с тем, как она строится. Сейчас уже существуют две проблемы. Во-первых, на строительстве этой станции мы ничего не заработаем и получим новые долги. И, во-вторых, столько электроэнергии нам не нужно, так как мы не сможем ее продать. Тем более, что не мы являемся субъектами хозяйствования, хозяева – россияне.

Молодые избиратели были озабочены более прагматичными вопросами: ростом алкоголизма среди молодежи, дворовыми территориями, проблемами семьи. А молодой многодетный отец высказал свои прямые симпатии к первой в стране кандидатке-женщине, которую назвал «реальной альтернативой» и «лучом света в нашем темном царстве», за что получил в свой адрес дружелюбные аплодисменты присутствующих на встрече граждан.

Высказалась Татьяна Короткевич и за отмену смертной казни, и за вывод иностранных военных формирований с территории Беларуси, за ее нейтральный статус, а также за выборность местной власти, которая в таком случае была бы подотчетна гражданам, ее избирающим.

В общем, разговор получился неформальный, живой и достаточно эмоциональный.

**www.vitebskspring.org/be/news/2632**

ТУРЫЗМ

# ЦІ СТАНУЦЬ ВЯЛІКІЯ ЛЁТЦЫ ВЯДОМЫМІ?

**Што, акрамя возера, можна наведаць у вёсцы Вялікія Лётцы? І ці апраўдвае яна зараз свой назоў?**

У суботу ў Вялікіх Лётцах адбылося сапраўднае свята. Як і анансавалася, была праведзена экскурсія, затым ўборка тэрыторыі сядзібы і канцэрт гурта «Vuraj», якую вы ўсе цудоўна ведаеце. Але пра ўсё па парадку.

Экскурсію праводзіў дырэктар лятчанскай школы-інтэрната краязнаўца Міхаіл Дука. Першыя людзі ў Лётцах пачалі атабарвацца яшчэ падчас жалезнага веку. Тады невялікае паселішча зьявілася каля вёскі Міклаш, якая не захавалася. А ў летапісах Лётцы ўпершыню згадваюцца ў літоўскіх метрыках у 1540 годзе.

Зараз назва Вялікія Лётцы не адпавядае сама сабе, бо Малыя Лётцы куды буйнейшыя, ў іх знаходзяцца цэнтр сельскага выканкама, два санаторыі, некалькі дзіцячых лагераў.

Вялікія Лётцы вядомыя тым, што ў пачатку ХХ стагоддзя ў іх працаваў вучоны-батанік Уладзімір Уладзіміравіч Адамаў (1875 -1939). Ён з'яўляецца адным з арганізатараў батанічнага саду, у якім былі сабраны сотні драўняных, травяністых і полукустарникавых раслін. У 20-х гадах значная частка калекцыі была перавезена ў Віцебскі батанічны сад. Рэшткі калекцыі згубленыя ў гады Другой сусветнай вайны. У 1946 годзе ў былым маёнтку Адамава адкрыўся Вяликолятчанскі дзіцячы дом для дзяцей-сірот Вялікай Айчыннай вайны. У 1961 годзе былі пабудаваныя 2 корпуса, кацельня, сталовая, службовыя памяшканні, і дзіцячы дом быў рэарганізаваны ў санаторную школу-інтэрнат для дзяцей з малымі і згасаючымі формамі туберкулёзу. З 1 жніўня 1996г. ізноў быў адкрыты дзіцячы дом для дзяцей-сірот ва ўзросце ад 3 да 18 гадоў на 150 месцаў.

На дадзены момант у дзіцячым доме выхоўваецца 101 дзіця. Асноўны прынцып пры камплектаванні - захаванне сямейных роднасных сувязяў паміж дзецьмі. Таму выхаванцы дзіцячага дома - гэта браты і сёстры, якія воляй лёсу пазбавіліся бацькоўскай апекі. Увесну гэтага года ў двары дзіцячага дома высаджана алея да 70-годдзя заканчэння вайны. У гэтым мерапрыемстве ўдзельнічалі выхаванцы дзіцячага дома і работнікі Абласнога ўпраўлення дэпартамента аховы.

У перапынку экскурсіі была праведзена невялікая ўборка каля сядзібы Уладзіміра Адамава. Так, яна знаходзіцца ў занядбаным стане. Але, на думку Міхаіла Дука, яна мае вельмі добрую турыстычную перспектыву, калі, вядома, з'явіцца інвестар.

Ну, а пасля працы мы схадзілі да велічнага дуба, які расце недалёка ад дзіцячага дома. Яго ўзрост налічвае больш за дзвесце гадоў, а каб абхапіць яго спатрэбілася пяць дарослых людзей.

Група «Vuraj» хоць і грала ў няпоўным складзе (з шасці чалавек прыехалі тры), але пазітыву і драйву ўсё роўна хапіла на ўсіх.

Былі выкананы некалькі самых вядомых песень – «Вэлытай», «Пэрэпылко !», « Раёк», «Поле чыстае», "За валам». Сяргей Доўгушаў, як заўсёды, уразіў спевам, танцамі і гульнёй на сапілцы і акарыне.

*Цалкам на vkurier.by*

**пераклад з расейскай выкананаў Ян Сведка**

ЗДАРЭННІ

# ЭКСТРЕМАЛЬНЫЙ ПОХОД В ЛЕС

**20 сентября в 11-17 от гражданки 1971 г.р. поступило сообщение о том, что она заблудилась в лесном массиве возле д. Гороватка Витебского района. В 12-30 заблудившаяся женщина самостоятельно вышла из леса.**

В 17-55 от дочери поступило сообщение о том, что её отец 1949 г.р. отправился в лес для сбора грибов и заблудился в лесном массиве возле д. Дымовщина Витебского района. К поисковым работам подключились работники РОВД и спасатели, однако заблудившийся пенсионер найден не был и в связи с наступлением темного времени суток поиски были прекращены. Сегодня утром поисковые работы продолжены.

В 19-33 на пульт МЧС позвонил пенсионер с просьбой оказать помощь в поисках его супруги 1949 г.р., которая заблудилась в лесном массиве возле д. Савченки Витебского района. В состав поисковой группы вошли 2 единицы техники и 4 человека Витебского РОЧС и РОВД. В связи с наступлением темного времени суток поиски были прекращены и продолжены на следующее утро с 05-30. В 06-57 потерявшаяся женщина вышла из леса на звук пожарного автомобиля. Медицинская помощь пенсионерке не потребовалась.

В 19-30 от гражданина 1971 г.р. поступило сообщение о том, что он заблудился в лесном массиве возле д. Осинторф Дубровенского района. И вновь к поискам подключились спасатели и милиция. В 23-00 в районе д. Осинторф на звуковой сигнал пожарного автомобиля потерявшейся вышел из леса.

Уважаемые граждане! Для того, чтобы не оказаться в числе потерявшихся людей, будьте осторожны и внимательны в пределах любых, даже хорошо знакомых Вам лесных массивов

**mchs.gov.by/rus/**

ПА ЗАКОНУ СУМЛЕННЯ

# ГЕНАДЗЬ САКАЛОЎ ПРЫГАДВАЕ ЧАСЫ СТАЛІНСКІХ РЭПРЭСІЙ

**Дзякуючы намаганьням актывістаў грамадзкай ініцыятывы « Хайсы» стала вядома яшчэ адно месца масавых расстрэлаў рэпрэсаваных на тэрыторыі Віцебскага раёну.**

На гэты раз у якасьці асноўнага сьведкі забойстваў ля вёскі Лужасна ў Цёплым лесе выступіў васьмідзесяці чатырохгадовы жыхар Віцебску Генадзь Аляксандравіч Сакалоў. Як кажа Ян Дзяржаўцаў, некаторыя прадстаўнікі мясцовай улады Віцебскага раёну ня раз папікалі сяброў грамадзкай ініцыятывы « Хайсы» за тое, што прадстаўленыя імі жыхары аднаймennай вёскі нібыта ня могуць быць сьведкамі масавых расстрэлаў другой паловы трыццатых гадоў, бо на той час яны знаходзіліся ў дзіцячым узросьце. Аднак, як сьведчыць жыцьцё, менавіта гэткі ўзрост, калі цікаўнасьць пераважае над пачуцьцём самазахаваньня і пабуджаў дзяцей і падлеткаў рабіць даволі рызыкоўныя і нават авантурныя ўчынкі, на якія дарослыя ўжо былі ня здатныя. У якасьці другога аргумэнту супраць непаўнагадовых сьведак зьдзейсненых за часамі Сталіна злачынстваў некаторымі чыноўнікамі вылучаўся намёк на тое, што ніхія сьведчаньні папросту не ўнушаюць даверу. І калі трэба, то яны знойдуць столькі ж сьведак, якія агучаць абсалютна супрацьлеглыя сьведчаньні. Пакінем лёгіку падобных разважаньняў на іхнім сумленьні.

На гэта раз у якасьці асноўнага сьведкі масавых забойстваў у Цёплым лесе каля вёскі Лужасна выступае даволі паважаны і заслужаны чалавек: доктар вэтэрынарных навук па протазаалёгіі, былы прафэсар, загадчык катэдры зоагігіены Віцебскай вэтэрынарнай акадэміі, выдатнік адукацыі, вязень канцлягеру Пяты полк васьмідзесяці чатырохгадовы Генадзь Сакалоў. У канцы трыццатых гадоў ягоны бацька працаваў млынаром за пару кілямэтраў ад месца расстрэлаў. Млын стаяў на рацэ Лужасьнянцы, там жа жыла сям'я.

Прыгадвае Г. Сакалоў: «Вось яна найвышэйшая гара, строма і там унізе ля самай вады расстрэльвалі. Гара як раз насупраць чыгуначнай станцыі Лужасна, мо крыху правей.

Старэйшыя дзеці распавядалі, як яны хадзілі глядзець на расстрэлы, сярод іх былі мой брат Валянцін 1929 году нараджэньня і ягоныя сябры-аднаклaсьнікі з Лужасна. Хадзілі ноччу некалькі разоў, калі прыяжджалі машыны зь людзьмі. Мяне брацьне хацелі, але аднаго разу ўзялі. Гэта быў прыкладна 1937-1938 гады, хутчэй за ўсё трыццаць восьмы, бо ў школу я пайшоў у трыццаць дзевятым. Тады я, канечне, ледзьве за імі пасьпяваў, пад гару. Прыйшлі на месца, сядзелі, чакалі. Гадзіньніка ў нас не было, але, прыблізна, дзесьці апоўначы прыехала машына. Выйшлі некалькі чалавек і нейкі час мітусіліся там унізе. Затым: пах-пах і другі раз пах-пах. Мы, як пах-пах, так адпаўзлі і ўцякаць. Гэта ня быў адзінкавы выпадак, расстрэльвалі шмат разоў. Сьведкамі былі ня толькі мы, але і некаторыя жыхары вёскі Лужасна. Пагалоска доўга хадзіла па навакольлі. Месца тое называлі « праклятым». Зьняволеных прывозілі зь Віцебску. Расстрэльвалі на мяжы невялічкай балацінкі і сушы, каб забітых пасьля таго можна было закапаць».

Пра расстрэлы рэпрэсаваных у Цёплым лесе Яну Дзяржаўцаву распавядаў у прыватнай размове і дзевяноста чатырохгадовы жыхар Віцебску Мікалай Пятровіч Малашэнка, сям'я якога ў трыццатыя гады жыла ў вёсцы Хайсы. На той момант Мікалаю Пятровічу было семнаццаць гадоў.

Безумоўна, агучаная інфармацыя патрабуе праверкі, досьледу і прафэсійнай эксгумацыі , магіл, якія засталіся некранутыя «чорнымі капальнікамі», а парэшткі не валяюцца па лесе як у выпадку з ахвярамі расстраляных ў лясным масіве за вёскай Хайсы

**vitebskspring.org/be/news/2630**

# КРАЖИ – САМОЕ РАСПРОСТРАНЁННОЕ ПРЕСТУПЛЕНИЕ

**На сегодняшний день кражи являются одним из самых распространенных преступлений в Витебской области. Желание легкой наживы словно магнит притягивает воров, а их «достижения» становятся сюжетами уголовных дел.**

На сегодняшний день кражи являются одним из самых распространенных преступлений в Витебской области. Желание легкой наживы словно магнит притягивает воров, а их «достижения» становятся сюжетами уголовных дел.

Как отмечает первый заместитель начальника Витебского РОВД Виктор Прокопович, в половине случаев пострадавшие сами открывали дверь. Как правило, организуется застолье, а наутро вместе с головной болью хозяева квартир обнаруживают пропажу.

Ежедневно в милицейских сводках фигурируют набившие оскомину обстоятельства: незакрытые двери и окна, неохраняемые стоянки и оставленные без присмотра вещи. Для нечистых на руку граждан это настоящий подарок судьбы.

За свою беспечность поплатился и житель одной из деревень Витебского района. Пользуясь тем, что владелица автомобиля оставила его незапертым, преступник совершил кражу. Возвратившись, женщина не нашла кошелька и мобильного телефона. Однако радовался удачному приобретению злоумышленник не долго. Вызванные на место происшествия сотрудники милиции быстро обнаружили и задержали его. По факту кражи возбуждено уголовное дело.

В последнее время особо полюбились преступникам двухколесные средства передвижения. Ведь оставленный без присмотра велосипед может принести вору неплохой доход. Как правило, милиционеры выходят на след по горячим следам. Однако лучше самим гражданам не допускать подобных фактов, проявляя бдительность.

**www.pridvinje.by**

## АБ'ЯВА

***Каб атрымліваць кожны нумар газеты "Дзвінскі Ўзгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэдэфануйце.***

***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты "Дзвінскі Ўзгорак".***

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***





ПАЛІТЫЧНАЯ КАМПАНІЯ

# АД СЫТАСЦІ ДА АБАРОНЕНАСЦІ

**Перадвыбарная праграма галоўнага кандыдата на прэзідэнцкую пасаду — істотная заяўка на права і далей несці крыштальны сасуд. Перад намі «карціна алеем», для стварэння якой аўтарам хапіла дзвюх фарбаў — чорнай і белай.**

Пачну з размовы з жонкай перад сном:

— Якія навіны?

— Апублікаваныя вынікі апытання Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра (ІАЦ).

— І што?

— Аказваецца, ты ўсім задаволеная.

— Ваў!

Зразумець здзіўленне маёй жонкі нескладана. Пяць гадоў таму напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў яе зарплата (настаўніцы сярэдняй школы) перавысіла 500 долараў. Сёння пры той жа нагрузцы яна не дацягвае ў эквіваленце і да 300 «зялёных». Такі вынік чацвёртай пяцігодкі для асобна ўзятай прафесійнай групы.

У лістападзе 2010 года 77,5% суайчыннікаў былі ўпэўненыя, што Беларусь пад кіраўніцтвам адзінага палітыка (АП) развіваецца ў правільным кірунку. За пяць гадоў гэты паказчык не змяніўся. Стабільнасць, аднак. Такой стабільнасць уяўляюць сацыёлагі ІАЦ, калі на яе глядзець з вокнаў кабінетаў на праспекце Пераможцаў.

Здольнасць рэагаваць на змены навакольнага асяроддзя — фундаментальная ўласцівасць жывых арганізмаў. Але, калі меркаваць па прыведзенай сацыялогіі, сярэднестатыстычны беларус знаходзіцца ў каматозным стане (ад старажытнагрэчаскага «кома» — «глыбокі сон» — стан паміж жыццём і смерцю, які характарызуецца стратай свядомасці, рэзкім паслабленнем або адсутнасцю рэакцыі на знешнія раздражненні.

**Змена вехаў**

Працытую фрагмент з папярэдняй «Азбукі паліталогіі» («Хто вычарпаў ліміт рэвалюцый?», 11 верасня, №34): «З пэўнага моманту для кожнай аўтарытарнай дзяржавы палітычная павестка пачынае канцэнтравацца на ўтрыманні ўлады. А гэта азначае, што жыць яна пачынае пад дыктоўку надыходзячай рэвалюцыі. Прадухіленне рэвалюцыі становіцца адзіным пунктам праграмы кіруючага класа. Тут ужо не да развіцця».

Не ўпэўнены, што мяне чытаюць у Адміністрацыі АП, але актуальнасць майго выказвання там прызнаюць, што і пацвярджае перадвыбарная праграма кандыдата на пяты прэзідэнцкі тэрмін. Яна апублікаваная 17 верасня. Адкрыем яе.

Перад намі «карціна алеем», для стварэння якой аўтарам хапіла дзвюх фарбаў — чорнай і белай. Дзве фарбы сімвалізуюць два магчымыя шляхі развіцця Беларусі: «Адзін шлях наперад — да захавання стабільнасці і парадку, свабоды і незалежнасці. Гэта шлях адзінства і згоды, развіцця і прагрэсу. Гэта шлях міру і стварэння. Іншы шлях назад — да смуты і хаосу «дзевяностых», бандыцкага капіталізму і дзяльбы ўласнасці, да паслаблення дзяржавы і страты незалежнасці. Гэта шлях рэвалюцыі, крыві і вайны».

Прадухіленне рэвалюцыі — цэнтральны элемент праграмы АП. Але калі ў 2010 годзе кандыдат на чацвёрты тэрмін у якасці антырэвалюцыйнага сродку (сродку па падтрыманні стабільнасці) прапаноўваў «імкліва рухацца наперад і дасягнуць большага», то сёння на парадку дня стаіць задача «абараніць тое, што ўжо створана».

Такая дыялектыка развіцця аўтарытарнага рэжыму. Яна выразна прагладаецца ў загалоўках праграм адзінага рэальнага кандыдата на прэзідэнцкую пасаду: «Ад захавання — да памнажэння» (2010), «За будучыню незалежнай Беларусі» (2015).

Дзесяць гадоў таму кандыдат на трэці тэрмін абяцаў давесці якасць жыцця нашых грамадзян да ўзроўню, параўнальнага з заходнееўрапейскім. Пяць гадоў таму ён рэдукаваў сваё абяцанне да набліжэння ўзроўню жыцця ў Беларусі да еўрапейскага.Сёння кандыдат на пяты тэрмін цвёрда абяцае абараніць Айчыну ад любых замахаў.

Несці на працягу двух дзесяцігоддзяў крыштальны сасуд, імя якому Беларусь, — задача не самая простая. Верагоднасць спатыкнуцца рэальная, тым больш, што жадаючых падставіць падножку хапае.

Адсюль змена вехаў. Змена сацыяльнага кантракту. Падтрымліваць лаяльнасць насельніцтва за кошт росту рэальных даходаў беларуская мадэль больш не ў стане. Свой унутраны рэсурс яна цалкам вычарпала яшчэ ў пачатку «нулявых». Далейшы рост даходаў забяспечваўся за кошт датацый з боку «нашай Расіі», нафтавага афшора і крэдыту МВФ.

Новы сацыяльны кантракт прадугледжвае абмен лаяльнасці на выжыванне. Упершыню пра яго ўвядзенне АП абвясціў у сваім навагоднім звароце за некалькі хвілін да надыходу 2015 года. У праграме «За будучыню незалежнай Беларусі» новаму кантракту нададзена цэнтральнае месца.

Абмяжуюся трыма цытатамі: «Нам у Беларусі ўдаецца захаваць мір, мы не чуем стрэлаў і разрываў снарадаў, у нас ёсць магчымасць спакойна працаваць, гадаваць дзяцей і радавацца мірнаму жыццю». «Як першы прэзідэнт незалежнай Беларусі магу цвёрда абяцаць вам: наша краіна ніколі не будзе ўцягнутая ў чужыя войны і канфлікты. І мы заўсёды абаронім Айчыну ад любых замахаў». «ЗАХАВАЦЬ У КРАІНЕ МІР І ПАРАДАК — у гэтым я бачу сваю другую найважнейшую задачу».

**Усім і бескарысліва**

Любая мабілізацыйная кампанія, хто б і з якой мэтай яе ні праводзіў, вядзе да палярызацыі грамадства. У расколатым жа беларускім грамадстве эфект палярызацыі праяўляецца асабліва відавочна. Таму мэтанакіраваныя намаганні дзяржаўнай прапаганды па мабілізацыі патэнцыйных прыхільнікаў АП аўтаматычна вядуць і да мабілізацыі яго праціўнікаў.

З эфектам палярызацыі звязаны адносны поспех апазіцыйных кандыдатаў на прэзідэнцкіх выбарах. Калі ўзровень электаральнай падтрымкі АП на выбарах адпавядае яго рэйтынгу даверу, то для апазіцыйных кандыдатаў ён, як правіла, у два разы вышэйшы (паводле дадзеных НІСЭПД).

Гэта перавышэнне забяспечваецца за кошт так званага пратэстнага галасавання. Але адна справа — згаджацца на негатыўны пабочны эфект мабілізацыі ва ўмовах ранейшага сацыяльнага кантракту («Лаяльнасць у абмен на рост даходаў») і зусім іншае — ва ўмовах цяперашняга («Лаяльнасць у абмен на выжыванне»).

У 1994 годзе Лукашэнка быў галоўным рэсурсам сваёй выбарчай кампаніі. Сёння, калі меркаваць па публічнай інфармацыйнай прасторы, ён фактычна хаваецца ад сваіх патэнцыйных выбаршчыкаў.

Роля галоўнага ньюсмейкера Беларусі ўскладзена на старшыню Цэнтрвыбаркама Лідзію Ярмошыну. У гэтую ролю яна выдатна ўжылася, і нават вялікі Станіслаўскі не змог бы вымавіць сваё сакраментальнае: «Не веру!»

Я рэгулярна праглядаю сайт самай салідной беларускай газеты. Прывяду некалькі загалоўкаў навінавых матэрыялаў: «Ярмошына цалкам давярае выбарчым камісіям» (16.09); «Ярмошына лічыць, што ў Беларусі не варта спяшацца з пераходам на дыстанцыйнае галасаванне» (16.09); «Ярмошына: Беларусь не баіцца экзіт-полаў» (16.09); «Ярмошына: На тэледэбатах кандыдатам трэба трымацца бойка і кампетэнтна» (11.09).

З апошняга загалоўка вынікае, што інтарэсы гэтай выдатнай жанчыны не абмяжоўваюцца прафесійнай сферай. Яна прэтэндуе і на лаўры галоўнага беларускага спецыяліста ў галіне фармавання палітычнага іміджу. Прычым свае парады старшыня Цэнтрвыбаркама раздае бескарысліва, незалежна ад палітычнай арыентацыі кандыдатаў.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**




ІНТЭГРАЦЫЯ

# ЗАЧЕМ ВЫ МОЛОКО РАЗБАВЛЯЕТЕ?

**Смех в зале среди участников форума регионов России и Беларуси, который прошел в Сочи 18 сентября, вызвал диалог Александра Лукашенко и Владимира Путина по поводу натуральности белорусского молока.**

Президент Беларуси решил заочно ответить на упреки в свой адрес со стороны президента Казахстана.

Недавно Нурсултан Назарбаев на форуме приграничного сотрудничества России и Казахстана пожаловался Путину, что Лукашенко «шпарит туда порошок этот, порошок разбавляется и продается. Это совсем не цельное молоко, это молочный напиток, он на Западе таким и считается, а продается по таким же ценам, по которым продается наше молоко».

Лукашенко, воспользовавшись случаем, с трибуны форума в Сочи попробовал дать достойный ответ своему казахстанскому коллеге, но не без помощи Путина нарвался лишь на дружный смех в зале.

«— К сожалению, у нас не всё получается в Евразийском экономическом союзе. И вы это, наверное, чувствуете. Я вот прочитал выступление нашего дорогого друга Нурсултана Абишевича по поводу его озабоченности каким-то ненатуральным молоком или еще чего-то тут… Я просто не хочу… — замялся Лукашенко.

— Он рассчитывал на вашу реакцию. И добился своего. Он своего добился, — вставил Путин.

— Во-первых, мы живем в рыночных условиях. И самый продвинутый рыночник среди нас, вы это видите и по программам, — Нурсултан Абишевич. Покупают в Казахстане молоко такое, ну туда и везут его. Не покупают — не повезли бы! Это во-первых, — продолжил Лукашенко.

Во-вторых, нет такого термина «натуральное молоко». Все прекрасно понимают, что и Россия, и Беларусь взаимно сушат это молоко, удаляют воду. И когда пик молока падает, когда его не хватает, Россия заказывает в Беларуси, мы часто покупаем в России это молоко, разбавляем его, то есть добавляя воду, и получается нормализованное молоко.

— Но это же не пиво! Зачем вы разбавляете молоко? — удивился Путин под громкий смех в зале.

— Не услышал, — вполголоса обратился Лукашенко к Путину.

— Это не пиво. Зачем вы молоко-то разбавляете, — повторил Путин под продолжающийся смех.

— Да, — несколько смутился Лукашенко, но быстро собрался. — Поэтому если рассуждаешь на какую-то тему и проблему, надо глубже в ней разбираться. А то, что он говорит о напитке каком-то молочном, так это если сок добавляешь туда. Тогда это напиток. Вот в западной Европе, кстати, это есть. И эта не имеет тема никакого отношения к тому, что у нас происходит в Евразийском экономическом союзе. У нас гораздо есть серьезнее проблемы».

**Читать полностью и смотреть видео здесь: http://naviny.by**

СТАРТ КАНДЫДАТА

# ПРА КАТЭДЖ ГАЙДУКЕВІЧА І МЭХАНІЗМ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ЗДРАДЫ

**У рэпартажы Эўрарадыё з катэджу Гайдукевіча той прызнаецца журналісту Зьмтру Лукашуку, што набыў участак з домам у 93-м годзе за 22 тыс. даляраў.**

«На маю заўвагу, што 22 тысячы даляраў у 1993 годзе былі вялізнай сумай, — піша Лукашук, — спакойна адказвае, што «ў тыя часы адзін шапік прыносіў за дзень тысячы тры прыбытку, ня тое што цяпер, таму не такая гэта і вялікая сума».

І сапраўды — 22 тысячы даляраў у 1993 годзе не былі ні вялікай, ні нават вялізнай сумай. У той час яны былі сумай калясальнай.

Калі я падзяліўся сваімі сумненьнямі ў фэйсбуку, атрымаў камэнтар: «Поўнасцю з вамі згодны, бо ў мяне быў заробак 23 $ й працаваў я на „Інтэграле" інжынэрам, а заробкі там былі не на апошнім месцы й сума ў 22 000 $ выглядала касьмічнаю».

У лістападзе 1992-га ў знак пратэсту супраць забароны Вярхоўным Саветам ініцыяванага БНФ рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах я сышоў з пасады сакратара парлямэнцкай камісіі па СМІ і правах чалавека (першая добраахвотная палітычная адстаўка ў новай Беларусі). На той момант мая зарплата была аж 40 даляраў. Пасада сакратара камісіі па зарплаце прыраўноўвалася да міністэрскай, такім чынам, у міністра быў тыя ж 40 даляраў. Потым заробак крыху паднялі, але не нашмат — у тым жа 1993 старшыня ВС Шушкевіч атрымліваў у эквіваленце 80 даляраў, старшыня Саўміну Кебіч — афіцыйна — крыху меней.

У 1993 годзе Гайдукевіч працаваў в.а начальніка Ўпраўленьня пры Савеце Міністраў па сацыяльнай абароне вайскоўцаў, асобаў шараговага і кіроўнага складу органаў унутраных спраў, вайскоўцаў-інтэрнацыяналістаў, звольненых у запас у (адстаўку) і членаў іх сем'яў. Пасада прыраўноўвалася, у лепшым выпадку, да намесьніка міністра. (У дужках заўважу, што гэта афіцыйная пасада, рэальна ж Гайдукевіч узначальваў пракебічаўскае «Народное движение Беларуси», якое былостворана для супрацьстаяньня з БНФ і выступала за аб'яднаньне Беларусі і Расеі. Шматлікія выступы Гайдукевіча ў дзяржаўных СМІ вызначаліся агрэсіўным непрыманьнем Незалежнасьці, нацыянальнага Адраджэньня, беларускай мовы, дэмакратычных каштоўнасьцяў).

Натуральна, зарплата в.а. начальніка ўпраўленьня пры Савеце Міністраў ніяк не магла быць большай за заробак старшыні Савету Міністраў.

Дарэчы, ніякі шапік у 1993 годзе пры сярэднім заробку ў 20 даляраў не «прыносіў за дзень тысячы 3 прыбытку». Да нас пастаянна зьвярталіся прадпрымальнікі са скаргамі на бюракратычны ціск, таму я магу ўявіць іх даход — добра калі ён быў у паўтысячы тых даляраў за месяц. Увогуле, ці разумее Гайдукевіч, пра што сьведчаць ягоныя словы пра шапікі? Дзяржчыноўнікам было забаронена займацца камэрцыйнай дзейнасьцю.

Канешне, шапікі тут ні пры чым.

А вось удзел у «карупцыйных схемах» — рээкспарце нафты, каляровых мэталаў і г.д. — даваў сапраўды гіганцкі прыбытак. За ўсё — і асабліва за ліцэнзіі на рээкспарт — браўся хабар, і немалы.

Памятаю, неяк я прывёў да аднаго з намесьнікаў Кебіча старшыню Чыгуначнага райвыканкаму Віцебска (там была мая выбарчая акруга, а дэпутатаў ВС прапускалі без чаргі), каб «выбіць» каналізацыйныя трубы. Пытаньне вырашылася за тры хвіліны. «Ты ведаеш, колькі бізнэсоўцы плацяць за уваход у такія кабінэты? — спытаў мяне старшыня райвыканкаму. — Стаўка пачынаецца ад трох тысяч даляраў».

Гэта Васілю Быкаву Лявон Баршчэўскі завозіў мех бульбы, бо не хапала пэнсіі, гэта Зянон Пазьняк атрымліваў 20 даляраў ў сваім інстытуце гісторыі Акадэміі Навук і на сэсію ВС езьдзіў на тралейбусе, а чынавенства актыўна скалачвала падмурак цяперашніх холдынгаў і карпарацый.

Ну а тыя, хто не належаў да чынавенства, мусілі даваць хабар. Ідавалі — пачытайце прызнаньні цяперашніх «генэралаў бізнэсу», якім ў 90-х было 20-30 гадоў. Давалі хабар і тым самым, так ці інакш, умацоўвалі карупцыйную сыстэму, якая не дазволіла Беларусі стаць на дэмакратычны, эўрапейскі шлях. І якая, зь невялікімі пэрсанальнымі пэратурбацыямі, у 1994 перайшла пад Лукашэнку. І калі на першых (і адзіных сапраўдных) прэзыдэнцкіх выбарах 94 году Масква бачыла ў Лукашэнку праваднікa сваіх інтарэсаў (больш энэргічнага, чым Кебіч), дык намэнклятура імгненна разгледзела ў ім абаронцу сваіх капіталаў (ну, зь невялікім пераразьмеркаваньнем з улікам прыходу новых людзей). Не памыліліся ні першыя, ні другія. Цяпер Маскве можна не турбавацца адносна разьмяшчэньня чарговай ваеннай базы. І калі пры Кебічу вяршыняй мары чыноўніка лічыўся асабняк за 22 тысячы даляраў, дык цяпер вымяраюць мільёнамі (а асабліва «набліжаныя» — мільярдамі).

Тут інтарэсы Масквы і праўладнага бізнэсу сышліся. Спалучаюцца яны і цяпер: гэтак званы вялікі бізнэс ня толькі пралукашэнкаўскі, але і — прарасейскі.

Зрэшты, пра гэты мэханізм нацыянальнай здрады Беларускі Народны Фронт казаў і тады.

«Дамінуючым стаў працэс пераразьмеркаваньня дзяржаўнай уласнасьці і фінансаў у прыватную ўласнасьць намэнклятуры. Для гэтага адпаведным чынам напісаны законы, прыняты шэраг падзаконных актаў, якія адчынілі дарогу неправавому, але «законнаму» рабаўніцтву дзяржаўнай маёмасьці, хабарніцтву і карупцыі. Усё гэта адначасна зь безагляднай палітыкай стрымліваньня і недапушчэньня рынкавых рэформаў... прывяло да стварэньня на Беларусі асноваў намэнклятурна-мафіёзнай дзяржавы з тыповай для не канцэнтрацыяй багацьцяў у руках вузкага кола каляўладных асобаў, манапалізмам і імкненьнем да таталітарных формаў дзяржаўнага кіраваньня, што выявілася ў плянах стварэньня «прэзыдэнцкай дыктатуры».

Гэта цытата з прамовы старшыні БНФ Зянона Пазьняка на III Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі. 6 ліпеня, той самы 1993 год.

**Сяргей Навумчык**

ГЕОСТРАТЕГИЯ РОССИИ

# БУДЕТ ЛИ УКРАИНСКАЯ КАША В БЕЛАРУСИ?

**Оккупирует ли Россия Беларусь в ближайшие месяцы? На фоне скучного предвыборного сюжета (называть других кандидатов конкурентами Александра Лукашенко язык не повернется) эта алармистская тема выглядит для СМИ находкой.**

Заявления национальной оппозиции об агрессивности соседней империи, только и мечтающей поглотить Беларусь, многими воспринимаются уже как ритуальные заклинания. Из них сенсацию не сварганишь.

Но на сей раз благодатную для политических спекуляций тему вторжения с востока актуализировал доклад «Новая геостратегия России: последствия и вызовы для архитектуры международной безопасности», подготовленный Юрием Цариком и Арсением Сивицким из минского Центра стратегических и внешнеполитических исследований. Эта структура в экспертном сообществе имеет репутацию близкой к властям.

Не поддержать Лукашенко — приедет на танке Путин?

Фишка доклада — тезис о высокой вероятности «военно-политической дестабилизации Республики Беларусь в течение ближайших трех-шести месяцев».

Тупиковая ситуация в Украине, при том что Минск намерен твердо придерживаться нейтральной и миротворческой позиции в этом конфликте, нормализовать отношения с ЕС и США, а также ряд других факторов подталкивают Москву, как считают авторы доклада, «к повторению украинского сценария» в нашей стране.

Толчком для ввода войск, согласно этой версии, может стать отказ белорусского руководства разместить здесь российскую авиабазу.

В ряде интервью эти же политологи поясняют, какой именно сценарий может применить Москва, учитывая проведение в Беларуси президентских выборов. Мол, сначала здесь замутят некое подобие майдана, причем якобы инспирированного Западом, а потом, когда возникнет конституционный кризис, просто введут свои войска — надо же спасать братскую республику.

Пикантность трактовки в том, что и большая часть белорусской оппозиции, в частности сторонники бойкота выборов, проведения уличных акций, предстают в этой обрисовке вольными или невольными пособниками Кремля.

Главный же месседж доклада адресован, пожалуй, Евросоюзу и США. Подтекст читается так: лучше уж поддержать Лукашенко, иначе здесь будет Путин.

**Оккупация маловероятна, деградация уже идет**

Что и говорить, Крымом да Донбассом Россия заработала репутацию безбашенного, отвязанного мирового игрока. Это вдобавок к не самому лестному бэкграунду СССР и Российской империи.

И все же наложить украинский сценарий на Беларусь для российских стратегов (предположим, они это прокручивают) проблематично по ряду причин.

Во-первых, да, по горло хватает и Украины. Владимир Путин хоть и любит выглядеть «ненаклоняемым», как и Лукашенко, но тягаться с мощью западного мира, обложившего санкциями, нереально. Надо аккуратно сдавать назад.

Во-вторых, демонизировать белорусов в массовом сознании россиян так же, как это сделали с образом украинцев, будет, пожалуй, гораздо сложнее.

В-третьих, осмелюсь предположить, что Лукашенко при всем его норове по большому счету устраивает Кремль. При всех капризах он для московской верхушки — свой, в том числе и ментально, по духу.

Любая же марионетка, которую Кремль захотел бы здесь поставить, может в некий момент выйти из-под контроля. Да и попробуй еще поставь. Лукашенко держит страну под колпаком. Все просвечивается жестким рентгеном. Смешно думать, что спецслужбы проморгали бы подготовку неких сотен боевиков для местного майдана, о чем пишут иные российские ресурсы.

Да, белорусскую ситуацию можно пустить вразнос, если приложиться со всей дури. Но тогда процесс способен выйти также из-под контроля тех, кто этот большой бемц затеял. Не факт, что в итоге Москва получит лояльный ей режим.

Нет, ну зачем головная боль на ровном (или почти ровном) месте? Руководство нынешнего белорусского режима хотя и лавирует, пытается расширить свободу геополитического маневра, но к геополитической измене не способно в принципе по целому ряду причин, которым можно посвятить отдельную статью.

Да, в перспективе при стечении целого ряда неблагоприятных для Беларуси обстоятельств аншлюс не исключен. Но куда более реальной является перспектива многолетней деградации нашей страны в тени слабеющей постимперии. Эта деградация уже идет.

**Так кто пустил сюда «русский мир»?**

Возвращаясь же к докладу Царика и Сивицкого, стоит выделить такой тезис: «Важным аргументом в пользу организации смены режима в Беларуси для российского руководства является то огромное влияние, которое Россия имеет на специальные службы, государственный аппарат, директорат государственных предприятий, информационное пространство и экономику Беларуси».

В этом плане белорусский официальный лидер, при всей своей жесткой авторитарности, действительно очень уязвим. Его многолетняя ориентация на Москву, желание угодить Кремлю для получения субсидий привели к дальнейшей (начало положили царизм и большевизм) русификации всех сфер жизни, торможению национального самосознания белорусов.

Фактически сам Лукашенко «диким креном» (его собственное признание) своей политики на восток создал в Беларуси тепличные условия для тихой экспансии «русского мира».

И как бы ни холодили теперь спину высшего белорусского начальства угрозы со стороны Кремля, попробуй разорви его тщательно сплетенную паутину.

Чтобы обеспечить реальные гарантии независимости Беларуси, здесь нужно менять всю систему. Но кто на это способен?

*(скарочана)*

**Александр Класковский**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сенненская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку** 29.09.2015 у 18.20
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.